

# Працоўная Грамада

У адзінстве сіла!

№ 8
верасень
2000 года

ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ ЎСХОДНЯЙ ВІЦЕБШЧЫНЫ

Стоит ли участвовать в выборах, Янина Францевна? .. стар.2
Ці патрэбна яшчэ 110 міністраў? .................................... стар.2
Куток выбаршчыка: актуальныя пытанні ................. стар.3
Как председатель Городокского райисполкома отобрал автобус у детей ........................................................... стар.3
Вада – аснова жыцця! ( мясцовыя нататкі) ............... стар. 4
Абвесткі ......................................................................... стар.4

## Выбары. Свабодныя? Дэмакратычныя? Парламенцкія?

Па меры набліжэння даты 15 кастрычніка ўзрастае неабходнасць кожнаму грамадзяніну вызначыцца са сваім выбарам. Але каб вызначыцца, трэба перш-наперш зразумець, што адбудзецца ў гэты дзень.

Сённяшнія ўлады на Беларусі з вялікім імпэтам па радыё і тэлебачанню абвяшчаюць 15 кастрычніка днём свабодных дэмакратычных парламенцкіх выбараў за якімі будуць назіраць міжнародныя назіральнікі. Між тым кожнае слова ў гэтым сказе пасля слова "днём" выклікае вялікае сумненне.

Ці могуць быць свабоднымі выбары, калі апаненты ўлад не маюць магчымасці данесці свой пункт гледжання да выбаршчыкаў? Эрзац-прамовы асобных апазіцыянераў, якія апасля суправаджаліся доўгімі зняважлівымі каментарыямі вядучых БТ або кішэнных палітолагаў не ёсць свабода слова пад час выбараў. Ды і ўмова АБСЕ пра доступ дэмакратычнай апазіцыі да СМІ прэзідэнцкай уладай не выканана.

Ці могуць быць выбары свабоднымі, калі ў працы выбарчых камісій усіх узроўняў не прадстаўлены палітычныя партыі? Вылучэнне незалежных прадстаўнікоў ад партый і грамадскіх арганізацый у Цэнтрвыбаркам немагчымы, бо яго фарміруе прэзідэнт, а ў склад акружных камісій альтэрнатыўных кандыдатаў не ўключаюць аблвыканкамы.

Ці могуць выбары быць дэмакратычнымі, калі думкі 25% выбаршчыкаў не ўлічваюцца? Грамадства не можа быць дэмакратычным, калі за погляды, адрозныя ад поглядаў улад, грамадзяне не могуць знайсці працу. Сапраўды, зніkненні Захаранкі, Ганчара і іншых, судовыя праследы палітычных актывістаў у Менску, толькі вяршыня дзеяннаў рэпрэсіўнай машыны, створанай на Беларусі. Сёння кожны грамадзянін, які выказвае дэмакратычныя перакананні, крытыкуе пануючы рэжым можа быць упэўнены – новае месца працы яму не знайсці, а па цяперашняму месцу працы за ім пільна назіраюць, адсочваючы кожны крок. Прыкладаў гэтаму ў кожным мястэчку шмат.

Ці могуць быць выбары парламенцкімі, калі Палата Прадстаўнікоў не з'яўляецца парламентам? Сапраўды, да сённяшняга дня ПП не прызнана міжнароднай супольнасцю і адной з умоў гэтага прызнання з'яўляецца пашырэнне паўнамоцтваў Палаты да парламенцкіх. І зразумела, калі ПП не лічаць формай парламента, то выбары, ну ніяк, не могуць быць парламенцкімі, а будуць толькі палатачнымі.

Ці можа лічыцца тэхнічная група экспертаў БДІПЧ (Бюро дэмакратычных інстытутаў і праў чалавека) міжнародным назіраннем за выбарамі? Не і яшчэ раз не, бо міжнародным назіраннем лічыцца праца вялікай групы назіральнікаў ад еўрапейскіх структур як мінімум за 6 тыдняў да выбараў, а тэхнічная група толькі вывучае ўмовы выбара. Канешне, прыезд камуністычных утапістаў з розных краін на Беларусь магчыма называць міжнародным назіраннем, але нічога агульнага з міжнародным назіраннем гэта не мае.

Прапагандыскі гул пра парламенцкія выбары з'яўляецца толькі рэкламнай акцыяй. Праведзеныя ў такіх умовах выбары не прывядуць да рэальнага паляпшэння становішча, не вылячаць хваробы беларускіх улад. І няма ніякага сэнсу ў гэтым фарсе ўдзельнічаць. Калісьці Лукашэнка сказаў:"На выбары не пойду. Все равно обманут". Вельмі правільныя сёння словы.

*Аляксей ШЧУПАК*




<u>Официальный документ</u>

**ОРГАНИЗАЦИЯ ПО БЕЗОПАСНОСТИ И СОТРУДНИЧЕСТВУ В ЕВРОПЕ, БЮРО ПО ДЕМОКРАТИЧЕСКИМ ИНСТИТУТАМ И ПРАВАМ ЧЕЛОВЕКА.**

**Варшава, Польша**

**<u>Пресс-релиз</u>**

**ОБСЕ/БДИПЧ НАПРАВЛЯЕТ В РЕСПУБЛИКУ БЕЛАРУСЬ *ГРУППУ ЭКСПЕРТОВ* ДЛЯ ОЦЕНКИ ПРОВЕДЕНИЯ ПРЕДСТОЯЩИХ ВЫБОРОВ В ПАРЛАМЕНТ.**

<u>Минск, 15 сентября 2000</u> - Вчера Бюро ОБСЕ по демократическим институтам и правам человека (ОБСЕ/БДИПЧ) развернуло **миссию по технической оценке выборов** в Беларуси. Небольшая группа экспертов будет анализировать проведение парламентских выборов, планируемых на следующий месяц, с целью контроля соблюдения всех международных норм и правил, которые ранее на себя приняла Беларусь.

**«Это не миссия по наблюдению за выборами» - заявила Элизабет Расмуссон, руководитель группы**. «На данный момент нет оснований для развёртывания полной наблюдательной миссии, так как руководящие круги Беларуси недостаточно готовы к проведению демократических выборов, - добавила она, ссылаясь на решение, принятое 30 августа 2000 г в Вене в ходе конференции участников миссии наблюдения за выборами в Республике Беларусь, - Тем не менее, недавние изменения в системе выборов все-таки позволяют нам развернусь ограниченную миссию по их технической оценке».

Техническая группа будет оценивать организацию выборов, выборную кампанию и ситуацию в средствах массовой информации, сосредоточивая внимание на предвыборном периоде. «В ходе подготовки к выборам мы также уделим пристальное внимание политической ситуации и вопросам соблюдения прав человека, с особым акцептом на основных правах - таких как свобода собрания и выражения мнения» -заключила Элизабет Расмуссон.

## Стоит ли участвовать в выборах, Янина Францевна?

После того, как часть социал-демократов вместе с отдельными экслибералами включилась в избирательное действо, пришлось и мне услышать вопросы от образованных граждан: « А почему это Вы не участвуете в избирательной компании? Вас, демократов, поддержала бы не только интеллигенция, но и чиновники, ибо уж так жизнь стала невмоготу при татуси. Почему это Вы уклоняетесь от борьбы?»

Подобные вопросы можно услышать от многих граждан. Есть необходимость дать ответ, чтобы часть образованных граждан занимала бы нормальную гражданскую позицию, а не предавалась дисскусиям на кухне.

Во-первых, выборы без нормальных избирательных правил являются не борьбой политических программ, а избиением политических оппонентов. Именно это сейчас наглядно демонстрирует наше БТ – вспомните комментарии ведущих и карманных политологов минивыступлений оппозиции, демагогию про международное наблюдение, кривляние эфирных проститутов про лидеров оппозиции и т. Д. Быть избитыми хулиганами от власти – не великая радость.

Во-вторых, засучив рукава можно сражаться за реальную власть, когда общество созрело для решительных реформ. Но на Беларуси ещё не проели все припасенное предыдущими десятилетиями и высока степень общественных иллюзий на пропитание с огородов, полей и на помощь доброго дяди с Востока. Белорусская Палата это ширма для президентской власти, которая создала нашу ужасную луканомику. Бится за эрзацвласть и проиграть независимость, будущее страны – верх легкомыслия.

В-третьих, идея отстранения Лукашенко от власти через выборы ещё не овладела массами. И вы, Янина Францевна, могли бы реальными делами принять активное участие в демократическом движении. Но вам пока только чуток дискомфортно и хочется, чтобы свет в конце туннеля приближал кто-то другой, но не вы. Но в нынешней ситуации выборы ни палаточные, ни президентские ничего не решат,ибо будут сфальсифицированы, если не будет массового движения протеста. Ни один диктатор власть через выборы не отдавал. Это вы должны хорошо знать и понимать.




Активисты демократического движения ждут и ищут поддержки педагогов, культработников, врачей, чтобы совместными усилиями приблизить победу. Вытискайте из себя по капельки раба, принимая участие в наблюдении за выборами, в Маршах Свободы в Минске и Витебске, в создании первичек общественных организаций. Без наших совместных усилий деградация общества будет продолжаться.

*Леонид ГОРОВОЙ*

## Ці патрэбна яшчэ110 міністраў?

Дзейнасць сённяшней Палаты прадстаўнікоў адбываецца часам у закрытых умовах. Напрыклад вельмі мала грамадзян ведае, якія льготы маюць выбраныя Лукашэнкам дэпутаты ПП, якія ім прызначаны заробкі. Не ведаючы гэтых лічбаў часам незразумела чаму так многа жадаючых быць у структуры, якая не мае рэальнай заканадаўчай улады. Але пытанні знікаюць, калі пазнаёмішся з законам аб дзейнасці дэпутатаў, які яны для сябе прынялі. Сапраўды, чаму б не ўладкавацца на працу, якая забяспечвае прыстойнае жыццё на ўзроўні міністра? Вось так паціху і пасадзяць выбаршчыкі-падаткаплацельшчыкі сабе на шыю яшчэ 110 міністраў!

**Выбаршчык, падлічы!**

Закон «Аб статусе дэпутата Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь»

**Артыкул 32.** *Забеспячэнне матэрыяльна-фінансавых умоў для ажыццяўлення дэпутатам Палаты прадстаўнікоў, членам Савета Рэспублікі сваіх паўнамоцтваў*

Усе дэпутаты Палаты прадстаўнікоў, члены Савета Рэспублікі, якія працуюць на прафесійнай аснове, незалежна ад займаемай у Палаце прадстаўнікоў, Савеце Рэспублікі пасады, за выключэннем старшынь палат Парламента, іх намеснікаў, атрымліваюць аднолькавае **штомесячнае грашовае ўзнагароджанне ў памеры заработнай платы міністра.**

Пры гэтым кампенсацыйныя выплаты па пакрыццю расходаў, звязаных з дзейнасцю дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі, не абкладаюцца падаходным падаткам.

Артыкул 34. *Прадастаўленне дэпутату Палаты прадстаўнікоў, члену Савета Рэспублікі жылога памяшкання*

Дэпутату Палаты прадстаўнікоў, члену Савета Рэспублікі, якія ажыццяўляюць свае паўнамоцтвы на прафесійнай аснове, не маюць у горадзе Мінску жылой плошчы або стаяць на ўліку для паляпшэння жыллёвых умоў, па іх заяве не пазней шасці месяцаў з дня пачатку работы на. прафесійнай аснове прадастаўляецца ў горадзе Мінску **службовае жылое памяшканне для пражывання з членамі сям'і.** На перыяд да атрымання службовай жылой плошчы дэпутату Палаты прадстаўнікоў, члену Савета Рэспублікі, якія ажыццяўляюць свае паўнамоцтвы на прафесійнай аснове, прадастаўляецца двухмесны гасцінічны нумар ці па іх жаданню пакрываюцца расходы па найму жылога памяшкання ў парадку і памеры, устаноўленых заканадаўствам.

Жылая плошча па пастаянным месцы жыхарства, якую займаюць дэпутат Палаты прадстаўнікоў, член Савета Рэспублікі і члены іх сем'яў, бранiруецца на час іх ад-сутнасці ў сувязі з ажыццяўленнем сваіх паўнамоцтваў у Парламенце.

Дэпутат Палаты прадстаўнікоў, член Савета Рэспублікі маюць права на пазачарговую ўстаноўку кватэрнага тэлефона.

**Артыкул 35.** *Штогадовы аплатны водпуск дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі*

Дэпутату Палаты прадстаўнікоў, члену Савета Рэспублікі прадастаўляецца штогадовы аплатны водпуск працягласцю 36 каляндарных дзён, калі заканадаўствам не прадугледжаны водпуск большай працягласці.

Артыкул 40. *Медыцынскае, санаторна-курортнае і бытавое забеспячэнне дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі*

Дэпутату Палаты прадстаўнікоў. члену Савета Рэспублікі медыцынскае, санаторна-курортнае і бытавое забеспячэнне прадастаўляецца **на ўмовах, ус-таноўленых для міністра Рэспублікі Беларусь.**

Артыкул 41. *Пенсіённае забеспячэнне дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі*

Дэпутату Палаты прадстаўнікоў, члену Савета Рэспублікі, паўнамоцтвы якіх скончыліся або датэрмінова спынены ў адпаведнасці з пунктамі 1, 2, 3 часткі пер-

шай артыкула 8 гэтага Закона, па іх звароту назначаецца штомесячнае грашовае забеспячэнне **на ўмовах і ў парадку, устаноўленых для выхаду ў адстаўку (на пенсію)** ***міністра*** **Рэспублікі Беларусь.**

Пераразлік памеру штомесячнага грашовага забеспячэння былых дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў, членаў Савета Рэспублікі праводзіцца адначасова з павелічэннем ва ўстаноўленым парадку заработнай платы працуючых на прафесійнай аснове на адпаведных або раўназначных пасадах дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў, членаў Савета Рэспублікі.

Выплата штомесячнага грашовага забеспячэння, назначанага згодна з гэтым артыкулам, у частцы, якая перавышае памер пенсіі па ўзросту, вызначаны зыходзячы з умоў і норм пенсіённага заканадаўства, ажыццяўляецца за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту. *( выдзелена рэдакцыяй)*

## ● *Куток выбаршчыка*

## Актуальныя пытанні

**Якія парушэнні закона найбольш масавыя пры галасаванні?**

У дзень галасавання найбольш распаўсюджанымі з'яўляюцца наступныя парушэнні:

*1. Галасаванне без прад'яўлення выбаршчыкам пашпарта.* Массавы характар гэта парушэнне набывае ў сельскай мясцовасці, дзе грамадзяне ведаюць адзін аднаго і не лічаць неабходным выконваць гэта патрабаванне закона. Асабліва масавым гэта парушэнне бывае, калі ўлады зацікаўлены ў большай яўцы на выбары і дае каманду яе забяспечыць. Але гэта парушэнне не уплывае на тайну і свабоду выбару .

*2. Галасаванне за другога выбаршчыка.* Гэта з'яўляецца грубым парушэннем выбарчага права грамадзяніна, калі члены участковых камісій даюць у адны рукі па два-пяць бюлютэняў – за мужа, сына, суседа і г.д. Кожны выбаршчык павінен галасаваць індывідуальна і не мае права перадаваць свой бюлютэнь іншым грамадзянінам. Члены камісій не маюць права парушаць тайну выбару і нясуць крымінальную адказнасць за парушэнне Выбарчага Кодэкса ( глядзіце ст. 8 №7 "Працоўная Грамада").

*3. Абход выбаршчыкаў з перанасной скрынкай.* На даму маюць права галасаваць грамадзяне, якія па стану здароў'я не могуць наведаць выбарчы ўчастак і паведамілі аб гэтым у камісію. Участковая камісія абавязана ўключыць такіх грамадзян у асобны спіс і да 18.00 правесці галасаванне на даму. Між тым масавым парушэннем заканадаўства з'яўляецца аб'езд як навакольных вёсак так і суседніх дамоў са скрынкай для галасавання і ахопліванне ўсіх грамадзян працэдурай галасавання, бо пры гэтым парушаецца свабода і тайна выбару. Тым больш, што вельмі часта члены участковых камісій адпраўляюцца ў абход выбаршчыкаў з лістамі з агульнага спісу выбаршчыкаў, фальсіфіціруя галасаванне на выбарчым участку. Крымінальную адказнасць нясуць ў гэтым выпадку старшыня камісіі і члены, што робяць абыход. Падобныя парушэння з'яўляюцца масавымі, бо ў сельскай мясцовасці не арганізуецца падвоз выбаршчыкаў на участкі. Парушэнні прагназуемы на ўчастках, дзе аб'яднаны па дзве і больш гаспадарак.

**Хто мае права стаць назіральнікам і якія іх правы?**

Назіральнікам за выбарамі мае права стаць любы грамадзянін Беларусі, які гэтага жадае і жаданне якога падтрымала не менш 10 выбаршчыкаў з яго акругі або які вылучаны для назірання палітычнай партыяй або грамадскім аб'яднаннем. Назіральнік мае права назіраць за дзеяннямі выбарчых камісій праз суткі пасля прадстаўлення неабходных дакументаў. Назіральнік мае права складаць акты аб парушэннях выбарчага заканадаўства, якія ён назіраў і рабіць аб гэтым заявы старшыні участковай камісіі, ў вышэйшыя камісіі або ў пракуратуру. Назіральнік не мае права ўмешвацца ў дзеянні выбарчых камісій. Для дакладнага выканання сваіх абавязкаў назіральнік павінен добра ведаць артыкулы Выбарчага Кодэкса, якія датычацца працэдуры галасавання і падліку галасоў.

Дзейнасць назіральнікаў з'яўляецца адказнай грамадскай справай і без яе ажыццяўлення немагчыма праводзіць дэмакратычныя, справядлівыя выбары. Калі на кожным выбарчым участку будзе па 3-4 назіральніка, толькі тады магчыма зафіксаваць усю працэдуру выбараў.

**Якая роль выканаўчай улады ў арганізацыі выбараў?**

Выканаўчая ўлада фармуе склады выбарчых камісій розных узроўняў і гэтым абмяжоўваецца яе місія ў выбарах. Выбарчыя камісіі маюць усе паўнамоцтва, каб праводзіць выбары ў адпаведнасці з заканадаўствам. Умяшанне ў дзейнасць камісій, выкананне іх функцый з'яўляецца парушэннем закона. Арганізацыйныя аддзелы райвыканкамаў не маюць права выклікаць членаў камісій на семінары, праводзіць іх інструктаж і г.д. Прадстаўнікі выканаўчай улады на ўчастках маюць тыя ж правы, што і назіральнікі. Пры ўмяшанні ў дзейнасць камісіі павінны быць пазбаўлены сваіх паўнамоцтваў і пакінуць выбарчы ўчастак.

## Как председатель Городокского райсполкома отобрал автобус у детей

**Уважаемая редакция!**

Написать письмо в вашу газету нас заставило возмущение, которое мы испытали в связи с циничным поведением к детям председателя Городокского райисполкома Мороза А. Н.

А суть дела в следующем. Больше года наши дети занимаются футболом и усиленно готовились к соревнованиям на приз клуба «Кожаный мяч», которые поддерживаются Лукашенко А.Г. Как нам родителям не тяжело финансово, мы всегда поддерживали наших детей, отправляя их за свой счёт на различные соревнования, матчевые встречи и турниры. И радовались тому, что дети увлечены, живут футболом и активно укрепляют свое здоровье.

В начале сентября, после многомесячных тренировок наша детская команда победила на зональных соревнованиях на призы «Кожаный мяч». Радости детей не было предела. С еще большим усердием ребята продолжали тренировки перед финальным областным турниром. Мальчишки очень хотели стать победителями областного турнира и попасть на республиканский финал.

Утром 8 сентября вся команда вместе с родителями собралась у здания райисполкома в ожидании автобуса «Мерседес-Бенц», который подарили сердобольные немецкие граждане белорусам для поездок детей Городокского района на различные соревнования и экскурсии.

Но в это время председатель райисполкома Мороз отдал команду забрать детский автобус для поездки на лен работников райисполкома, а заведующему отделом физкультуры отменить футбольный турнир и отправить детей домой. На глазах у изумленных детей шикарный автобус повез работников за 3 км на лен, а нашим детям пришлось со слезами на глазах расставаться со спортформой и мечтой о победе над сверстниками в Орше.

Понятно, что лен убирать необходимо. Но разве это правильный поступок руководителя района, который не может найти ведомственный автотранспорт, чтобы довезти шефов в близлежащую деревню? Получается, что Александр Григорьевич активно агитирует за занятия спортом, а местный начальник, облегчая свою жизнь, губит многомесячные надежды детей и родителей?

Мы, родители детей, до глубины души возмущены подобным отношением председателя райисполкома к нашим детям.

***Родители: Дударев В.В., Семков А.Ф., Власова Л.И., Максимов И.Г., Гуринова Т.В., Дедова Е.Ф., Ларина Т.Е., Валуев А.В.***

**("Народная воля" 22 верасня)**

# Вада — аснова жыцця!

## Не превращайте ремонт в ЧП!

19 сентября жители микрорайона «Весялуха», заселенного преимущественно работниками Городокской птицефабрики с удивлением обнаружили, что вода отключена. Никаких письменных сообщений жильцам об отключении воды в связи с ремонтом водопровода не было. Сантехническая служба птицефабрики за рабочий день не смогла провести ремонт, в результате люди после работы, оставшись без воды, вынуждены были искать ее на окрестных улицах в частных колодцах. Вода из колодцев быстро исчезла, да и соответствие ее санитарным нормам питьевой воды вызывает большое сомнение. Подвоз питьевой воды показался организаторам ремонта очень обременительной заботой.

20 сентября из-за отсутствия воды возник вопрос о закрытии детского сада N3, где треть детей от родителей, работающих на птицефабрике. Возникла проблема вынужденных прогулов работников птицефабрики, и только после этого были приняты экстренные меры, чтобы подать воду. Нашелся необходимый экскаватор, привезенный с района, и к 17 часам в квартиры жителей микрорайона была подана долгожданная вода.

У большинства жителей микрорайона после такого «ремонта» осталось немало вопросов. Почему жителей своевременно не уведомили об отсутствии воды? Почему не организуется подвоз питьевой воды при поломках водопровода? Жители считают, что решить такие вопросы можно и без нервотрепки.

**Ю. Степанов**

## Уникальный эксперимент: жизнь без воды!

Уже не одну пятилетку живут без воды жители пятых этажей микрорайона «Техникум», где в вечернее время в кранах не бывает воды. Если в других домах вода исчезает только при поломках водопровода, то на пятых-четвертых этажах по ул. Баграмяна и Комсомольской вода является ночной гостьей. После рабочего дня используется ночной запас воды, а для восполнения запасов воды надо организовывать ночную охоту на исчезающую добычу.

Ни коммунистическая, ни президентская власть проблему воды для верхних этажей не решила. Наверное, надо ждать новой власти, чтобы окончилась ночная охота за водой.

**Валентина Николаева**



## АБВЕСТКІ

Запрашаем грамадзян на узаемавыгадных умовах **да супрацоўніцтва па назіранню за выбарамі.**

Наша грамадская актыўнасць сёння – неабходная умова лепшага жыцця заўтра!

**Даведкі па тэлефонах: 23842 – Гарадок, 22310 – Лёзна, 27376 – Шумілінскі р-н.**




**Заснавальнік: Леанід Гаравы.**

**Рэдактар: Аляксей Шчупак.**



Адрас: 211540, г. Гарадок, вул. Гагарына, 30б-16
Тэл. 8-239-2-38-42
E-mail: gasc@gar. belpak.vitebsk. by



Выдадзена пры падтрымцы Віцебскага аддзялення ГА «Фонд імя Льва Сапегі»
Распаўсюджваецца бясплатна
Наклад 290 асобнікаў